Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 16 700.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-24-41

# НАВІНЫ



Пятніца, 6 лютага 1998 г. № 10 Кошт свабодны

СВАБОДА
Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Шыдлоўскага і Лабковіча «перасадзілі» ў Мінск

**Учора актывістаў Маладога Фронту Аляксея Шыдлоўскага і Вадзіма Лабковіча перавялі з Жодзінскага СІЗО ў мінскі следчы ізалятар на вуліцы Валадарскага.**




*Аляксей Шыдлоўскі і Вадзім Лабковіч 164 дні за кратамі.*

Абодвух хлопцаў, якіх ужо азнаёмілі з матэрыяламі справы, чакае працэс у Мінскім абласным судзе. Юнакам прад'яўлены абвінавачванні па шэрагу артыкулаў Крымінальнага кодэксу. Ім інкрымінуецца хуліганства, апаганьванне помніка Дзяржынскаму і знявага дзяржаўных сімвалаў. Гэтак пракуратура ацаніла размалёўванне будынкаў у райцэнтры Стоўбцы антыпрэзідэнцкімі лозунгамі і замену чырвона-зялёнага сцяга на бел-чырвона-белы над адной з установаў. Зрабілі гэта, сцвярджае стаўбцоўская пракуратура, менавіта 16-гадовы Вадзім Лабковіч і 19-гадовы Аляксей Шыдлоўскі.

За кратамі хлопцы знаходзяцца ўжо амаль паўгода. Нядаўна сусветная арганізацыя Міжнародная амністыя абвесціла іх вязнямі сумлення.

Дарэчы, у нядзелю, 8 лютага ў Мінску на плошчы Я.Коласа адбудзецца пікет у падтрымку Вадзіма Лабковіча, Аляксея Шыдлоўскага і Вадзіма Кабанчука. З дазволу Мінгарвыканкама пікетаванне будзе адбывацца з 11 да 15 гадзінаў.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Візіт украінскага прэм'ера

**Учора ў Мінск з афіцыйным візітам прыбыў прэм'ер-міністр Украіны Валерый Пуставойценка.**

У гэты ж дзень ён сустрэўся з прэзідэнтам Лукашэнкам, кіраўніком урада Сяргеем Лінгам, пабываў на аўтамабільным заводзе. На перамовах ва ўрадзе абмяркоўваліся магчымасці развіцця свабоднага гандлю, праблема падаткаабкладання і стварэння сумесных прадпрыемстваў. Украінскі бок зацікаўлены таксама ў хутчэйшай ратыфікацыі беларускай палатай дагавора аб дзяржаўнай мяжы паміж Украінай і Беларуссю.

Візіт украінскага прэм'ера завяршаецца сёння.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## Будзе новы пасол

**«Еўропа не зацікаўленая ў процістаянні, але гэта не азначае, што еўрапейскія структуры будуць мірыцца з тым, што адбываецца цяпер у Беларусі».**

Такую заяву зрабіў пасол Еўрапейскай камісіі ў Беларусі Луіс Марэна падчас сустрэчы з кіраўніцтвам Вярхоўнага Савета 13-га склікання. *«Калі ў вашай краіне не пачнуцца дэмакратычныя перамены, то наўна чакаць зменаў у дачыненні да яе з боку Еўропы»*, — зазначыў пасол і выказаў таксама шкадаванне, што трохбаковыя кансультацыі з удзелам прадстаўнікоў прэзідэнта, Вярхоўнага Савета і еўраструктур былі перарваныя, не даўшы станоўчага выніку.

Луіс Марэна, які заканчвае тэрмін сваіх паўнамоцтваў, падкрэсліў, што ўсё сказанае — гэта не яго прыватная думка, а пазіцыя Еўропы. Пераемнікам Л.Марэны ў якасці пасла Еўрапейскай камісіі ў Беларусі будзе дыпламат з Нідэрландаў.

## Місія АБСЕ на падлёце

**Чакаецца, што сёння ў Мінск павінны прыбыць першыя прадстаўнікі місіі АБСЕ ў Беларусі.**

Спачатку прыедуць кіраўнік групы Ханс-Георг Вік (ФРГ), а таксама Ханс-Петэр Кляйнэр (Швейцарыя) і Аляксандру Ботар (Румынія). Яшчэ адзін прадстаўнік АБСЕ — Марк Скоўгаард з Даніі — далучыцца да калег у пачатку сакавіка.

Паводле папярэдніх дадзеных, спецыяльнага офіса група АБСЕ ў Мінску спачатку мець не будзе. Плануецца, што на першым часе эксперты арганізацыі будуць ажыццяўляць сваю дзейнасць у гасцініцы, дзе яны будуць жыць, або на тэрыторыі некаторых пасольстваў.

*БелаПАН*

*Прэзідэнт сам зацвердзіў сістэму двайнога падаткаабкладання, а цяпер абвінавачвае чыноўнікаў*

# Стоп дэкларацыя

**Жахлівыя сны, звязаныя з дэклараваннем даходаў, пакінуць беларусаў на нейкі час у спакоі. Прэзідэнт Лукашэнка, улічваючы шматлікія звароты з розных бакоў і каб разабрацца ў законнасці двайнога падаткаабкладання, прапанаваў спыніць гэты працэс на невядомы тэрмін.**

Зразумела, што падатковая інспекцыя не магла абмінуць прапанову такой паважанай асобы і да спецыяльных указанняў спыніла збор дэкларацыяў як у фізічных асобаў, так і ў прадпрымальнікаў. Пераразлік падаходнага падатку спынены. Да таго ж, падатковым інспекцыям даручана паведаміць аб спыненні дэкларавання тым, хто падаў дэкларацыі. Тыя ж, хто паспяшаўся і ўжо заплаціў налічаныя дадатковыя падаткі, могуць паспрабаваць рэалізаваць сваё права на вяртанне грошай.

Такі паварот стаў нечаканасцю перш за ўсё для супрацоўнікаў падатковых інспекцыяў. Чакалі, што тэрмін падачы дэкларацыяў будзе працягнуты, магчыма, будзе павялічаны і тэрмін аплаты дадатковых сум падатку, але спыненне працэсу не прагназавалася. Чыноўнікі падатковых інспекцыяў у разгубленасці і каментаваць становішча адмаўляюцца.

Але найбольшае свята прэзідэнцкі загад стварыў для прадпрымальнікаў. Банкруцтва іх адкладваецца на нейкі час. Прадпрымальнікі на сваёй нарадзе, якая адбылася ў сераду, вырашылі спыніць сваю забастоўку, і таму беларусы ў бліжэйшыя працоўныя і выхадныя дні атрымаюць шанец развітацца са сваімі грошыма не толькі ў крамах, але і на рынку. Прадпрымальнікі адмянілі таксама шэсце, якое планавалася на 16 лютага ў форме «пахавання вольнага прадпрымальніцтва» з усімі патрэбнымі атрыбутамі: труной, аркестрам, вяночкамі і, можа быць, з трупам. Але ўстрымлівацца ад забастоўкі прадпрымальнікі плануюць да 19 лютага. Калі ў выніку рашэнне не будзе прынятае альбо не будзе на карысць «чайнікам», забастоўка працягнецца.

Аднак, нягледзячы на добрыя навіны, эксперымент, пастаўлены асабіста мною, меў нечаканыя вынікі. У адной з падатковых інспекцыяў на маё пытанне ці несці дэкларацыі пасля рашэння прэзідэнта адказалі: нясіце дэкларацыю, але пакуль сам падатак мы вам налічваць не будзем. Калі ўлічыць, што чыноўнікі залішнюю працу не выконваюць, у адмену дэкларавання цяжка паверыць.

Але ў любым выпадку, на наступны год падатковыя інспекцыі ўжо не атрымаюць такой колькасці падаткаў і штрафаў, якую яны могуць зарабіць за гэты год. Навучаныя прадпрымальнікі і проста фізічныя асобы адшукаюць спосабы, як абмінуць дэклараванне альбо зменшыць падаткі. Утойванне даходаў ад дзяржавы мае шанец стаць любімай забавай беларусаў.

Можа здацца, што ўпершыню грамадская думка вымусіла Аляксандра Лукашэнку прыняць рашэнне, якое супярэчыць мэце папаўнення яго казны. Аднак, чым скончыцца справа, пакуль невядома. Акрамя таго, застаецца здагадвацца, што паўплывала на прэзідэнта больш — забастоўкі прадпрымальнікаў альбо праблемнае становішча ягоных чыноўнікаў, афіцыйных журналістаў і г.д., якія таксама панясуць страты ад дэкларавання.

Нельга не адзначыць і ўдала выбраны момант для прыняцця прэзідэнцкага рашэння. Вось набліжаецца час стаяння ў чэргах у падатковых інспекцыях, і тут выходзіць прэзідэнт і пазбаўляе свой электарат ад самавольства чыноўніка. Апладысменты і новы ўсплеск любові гарантаваныя. Ніхто ж не будзе ўспамінаць, што закон аб бюджэце, у адпаведнасці з якім увялі двайное падаткаабкладанне, быў зацверджаны менавіта прэзідэнтам.

**Алесь САДОЎСКІ**

# Шматпакутны дэкрэт

**На стол прэзідэнту Лукашэнку пакладзены чарговы варыянт дэкрэта аб дысцыпліне.**

Пра гэта паведамілі ў сераду на прэс-канферэнцыі кіраўнік дзяржаўна-прававога ўпраўлення прэзідэнцкай адміністрацыі Аляксандр Пласкавіцкі.

Асноўны эмацыянальны запал прыдворнага юрыста быў афарбаваны амаль што клятвамі ў вернасці прэзідэнту. Пласкавіцкі абвясціў, што ў краіне адбываецца *«шырокамаштабнае ўдасканаленне заканадаўства»*. Па ягоных словах, асноўная мэта прэзідэнцкіх юрыстаў заключаецца ў паслядоўным і паўнацэнным правядзенні палітыкі кіраўніка краіны ў прававой сферы. Як заявіў Пласкавіцкі, любое адступленне ад палітыкі, праводзімай Лукашэнкам, было б грубай памылкай, любое наўмыснае скажэнне гэтай палітыкі з'яўляецца сур'ёзным правапарушэннем.

Па словах Пласкавіцкага, некаторыя праекты буксуюць у адміністрацыі прэзідэнта толькі таму, што трапілі ў прэсу і выклікалі адмоўную рэакцыю грамадскасці. Да іх адносяцца праект дэкрэта аб працоўнай і выканаўчай дысцыпліне. А.Пласкавіцкі распавёў, што гэты дэкрэт дапрацаваны *«вельмі старанна»*, і цяпер прэзідэнт разглядае чарговы варыянт. У дэкрэце змяніліся акцэнты і на першае месца пастаўленыя пытанні стымулявання высокапрадукцыйнай працы, у сувязі з чым змянілася і назва будучага дэкрэта. Пласкавіцкі выказаўся за тое, *«каб такія непапулярныя праекты не атрымоўвалі агласкі, бо прапанаваныя жорсткія меры кладуцца плямай на кіраўніка краіны»*.

Цікавыя былі і заўвагі наконт уніфікацыі беларускага і расійскага заканадаўства. Пласкавіцкі лічыць, што Беларусь не павінна *«капіраваць»* законы сваёй саюзніцы, хоць іншы раз даводзіцца іх *«спісваць»*. Аднак, па словах прэзідэнцкага юрыста, *«заканадаўства будзе ўлічваць нацыянальныя асаблівасці сваёй краіны»*.

Аляксандр Пласкавіцкі адмовіўся адказаць на пытанне, калі ж адбудуцца прэзідэнцкія выбары. На ягоную думку, гэта здарыцца *«на падставе дзеючай канстытуцыі»*. Але якой?

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

# «Талковы мужык» за кратамі

*Іван Ціцянкоў лічыць, што ягонага супрацоўніка Валерыя Папова арыштавалі памылкова. «Ён невінаваты і яго хутка выпусцяць», — упэўнена заявіў Ціцянкоў у размове з нашым карэспандэнтам.*

У аўторак, 3 лютага, у следчы ізалятар КДБ трапіў Валерый Папоў, начальнік аддзела аграрнапрамысловых комплексаў і падсобных вытворчасцяў упраўлення справамі прэзідэнта. Яго арыштавалі пасля абеду ў рабочым кабінеце і правялі неабходныя следчыя дзеянні. Як паведамілі нам у Савеце бяспекі, супраць 58-гадовага Папова ўзбуджаная крымінальная справа па 91-м артыкуле Крымінальнага кодэкса (крадзеж маёмасці ў асабліва буйных памерах). Следства вядуць супрацоўнікі МУС. Тая ж крыніца ў Савеце бяспекі падкрэсліла, што *«Іван Ціцянкоў, як законапаслухмяны чалавек, павінен аднесціся з патрэбнай ступенню абурэння да фактаў парушэння законнасці супрацоўнікамі яго падраздзялення»*. Па словах афіцыйных СМІ, прэзідэнт Лукашэнка падтрымаў дзеянні праваахоўных органаў, накіраваныя на бескампрамісную барацьбу з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй. Пры гэтым прэзідэнт падкрэсліў, што закон будзе аднолькавы для ўсіх чыноўнікаў, незалежна ад займаемай пасады.



*Іван Ціцянкоў заклапочаны лёсам свайго калегі.*

Да прыходу ў прэзідэнцкую адміністрацыю Валерый Папоў працаваў старшынёю Пухавіцкага райвыканкама, першым сакратаром Крупскага райкама КПБ, а ў 1990 г. трапіў у Мінскі аблвыканкам, дзе ўзначаліў гаспадарчы аддзел. Потым быў начальнікам аналагічнай структуры у Саўміне часоў Кебіча.

У гаспадарцы Івана Ціцянкова ён кіраваў аддзелам, які курыраваў падсобныя гаспадаркі ў Белавежскай пушчы, на Браслаўскіх азёрах, комплекс Атоліна пад Мінскам і некалькі калгасаў у Гомельскай вобласці. Гаспадаркі займаліся вытворчасцю сельскагаспадарчай прадукцыі, нарыхтоўкай лекавых траў і г.д. Але, як паведаміў карэспандэнту НАВІНАЎ Іван Ціцянкоў, арышт Папова *«не звязаны з гэтай дзейнасцю»*. Па словах Івана Іванавіча, «талковы мужык» Папоў трапіў у гісторыю ў час уборкі ўраджаю, калі старшыні двух калгасаў незаконна прадалі гаручае камерцыйнай фірме. Супраць фірмы, якая купіла паліва, цяпер вядзецца следства. Па словах Івана Ціцянкова, арыштаваныя прадстаўнікі гэтай фірмы, спадзеючыся выратавацца, пачалі ўвязваць са сваімі справамі супрацоўнікаў адміністрацыі прэзідэнта. Пра якую фірму ідзе гаворка, І.Ціцянкоў не паведаміў.

Іван Іванавіч распавёў, што ў дзень арышту В.Папова адсутнічаў на працы і для яго гэтая падзея з'явілася *«нечаканай навіной і да гэтага часу для яго незразумелая»*.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## У Маладога Фронту свая алімпіяда

**Актывісты маладзёжнай арганізацыі Малады Фронт збіраюцца правесці з 4 лютага па 4 сакавіка ў Мінску шэраг мерапрыемстваў, прымеркаваных да зімовых Алімпійскіх гульняў.**

У рамках гэтай маладафронтаўскай алімпіяды пройдуць конкурсы на лепшага вусатага снегавіка і «Міс Малады Фронт-98», спаборніцтвы па перацягванні каната, стральбе, а таксама шахматны турнір з удзелам гросмайстраў. Маладыя апазіцыянеры будуць збіраць подпісы грамадзянаў за адстаўку прэзідэнта беларускага Нацыянальнага алімпійскага камітэта з пасады прэзідэнта Беларусі і сродкі на падтрымку палітвязняў.

14 лютага ў дзень Святога Валянціна арганізатары апазіцыйнай алімпіяды збіраюцца наладзіць шэсце па праспекце Скарыны (адпаведная заяўка ўжо пададзеная ў гарвыканкам). Падчас гэтай акцыі некалькі групаў маладафронтаўцаў наведаюць 9 амбасадаў заходніх краінаў і прадстаўніцтва ААН, каб перадаць замежным дыпламатам віншаванні з нагоды Алімпійскіх гульняў у Нагана.

Нагадаем, што год таму ў дзень Святога Валянціна ў Мінску адбылася маладзёжная маніфестацыя «Беларусь у Еўропу», дзесяткі ўдзельнікаў якой былі арыштаваныя. Як будзе сёлета?

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Справа Старавойтава зацягваецца

**Васіль Старавойтаў, арыштаваны кіраўнік акцыянернага таварыства «Рассвет», не прызнае сябе вінаватым ні ў чым.**

На факты, якія яму прад'яўляе следства, 73-гадовы Старавойтаў або гаворыць, што нічога падобнага не памятае, або называе сцверджанні следчых няпраўдай. Гэта моцна замаруджвае ход крымінальнай справы, але віна арыштанта будзе даказаная, — паведаміў на прэс-канферэнцыі ў Магілёве начальнік абласной міліцыі Віталь Панасевіч.

В.Панасевіч не пацвердзіў інфармацыю, што справа Старавойтава звязваецца з забойствам старшыні Магілёўскага дзяржкантролю Яўгена Мікалуцкага. Паводле словаў начальніка міліцыі, па справе вакол АТ «Рассвет» ужо затрыманыя 9 чалавек, многія далі падпіску аб нявыездзе. Большасці інкрымінуюцца крадзяжы і злоўжыванні службовым становішчам.

**Іван ЗАСАДА**

*Выратавальніка падманутых укладчыкаў падазраюць у махлярстве*

# Клюеў праштрафіўся

**Нарастае скандал вакол мінскага бізнесмена Ігара Клюева, які адначасова з'яўляецца старшынёю Беларускага аб'яднання пацярпелых укладчыкаў.**

Камітэт дзяржаўнага кантролю абвінавачваў бізнесмена ў фінансавых парушэннях і выставіў велізарны штраф (13 мільярдаў рублёў) ягонай фірме «Белнацыяналсервіс», з дапамогай якой Клюеў браўся кампенсаваць страты укладчыкам. Гэтыя санкцыі Клюеў лічыць «беспадставынымі», а дзеянні кантралёраў называе «выкананнем спецыяльнага заказу».

«Я бачу, што за мной сочаць, добра ведаю, што мой тэлефон праслухоўваецца», — сказаў Клюеў карэспандэнту НАВІНАЎ. Ён лічыць, што міліцыянты «невыпадкова» збілі двух ягоных братоў Мікалая і Валерыя ў Віцебску. Пасля невядомыя напалі на супрацоўніка падатковай інспекцыі, які правяраў «Белнацыяналсервіс». Як лічыць Клюеў, гэтага чалавека пакаралі за тое, што ён адмовіўся правяраць фірму «больш жорстка, чым патрабуе закон». «Мы будзем дабівацца справядлівасці праз суд», — заявіў Ігар Клюеў, але пакуль ён звяртаўся толькі ў Дзяржкантроль і адміністрацыю прэзідэнта.

Між тым, у Дзяржкантролі гэтыя заявы мала каго турбуюць. «Судовага разбіральніцтва мы не баімся», — адказала начальнік упраўлення Вольга Цэдрык, якая непасрэдна кіравала кантралёрамі. Па яе словах, «Белнацыяналсервіс» несвоечасова плаціў падаткі — і таму пакаранне заслужыў.

Аднак Клюеў сцвярджае, што кантралёры спецыяльна імкнуцца «разваліць структуры, якія дапамагаюць укладчыкам», каб стварыць напружанасць у грамадстве. «Прэзідэнта падстаўляюць нядобрасумленныя людзі. Такое ўражанне, быццам яны працуюць на апазіцыю», — кажа дырэктар «Белнацыяналсервісу».

Хутчэй за ўсё, канфлікт паміж «выратавальнікам укладчыкаў» і службай кантролю зацягнецца і можа выйсці на вуліцу. За спіной Клюева — пару тысячаў укладчыкаў, гатовых «ісці да канца» і пры гэтым упэўненых, што Лукашэнка дапаможа ім. На апошнім сходзе укладчыкі заявілі, што падтрымліваюць свайго старшыню ў барацьбе супраць чыноўнікаў, якія «падманваюць прэзідэнта». Прадэманстраваць падтрымку Клюеву і Лукашэнку укладчыкі збіраюцца ў сярэдзіне сакавіка на мітынгу.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**



*На здымку: Ігар Клюеў з трыбуны даказвае, што можа выратаваць падманутых укладчыкаў.*

# Амерыканскага пасла хацелі ізаляваць ад журналістаў

**Два дні ў Гродне знаходзіўся амерыканскі пасол Дэніэл Спекхард.**

Папярэднічаў прыезду невялікі канфлікт. Кіраўнік вобласці Аляксандр Дубко прыняў увечары 2 лютага першага сакратара пасольства Дыяну Максэй. Ён выказаў незадавальненне тым, што амерыканцы самастойна распрацавалі праграму візіту (яна была прысланая ў аблвыканкам факсам), і спрабаваў змяніць яе.

Напрыклад, у першы дзень візіту планавалася сустрэча Д.Спекхарда з самім А.Дубко і паездка ў калгас «Прагрэс», дзе жыве старшыня аблвыканкама. Затым павінна была адбыцца сустрэча ва універсітэце і наведванне прыватнай кампаніі *Textile for Europe*. Гэтыя два пункты не спадабаліся ў аблвыканкаме. Тое ж самае датычыць сустрэчаў спадара пасла з прадстаўнікамі няўрадавых арганізацыяў і незалежных СМІ, якія адбыліся ў сераду.

Амерыканцы настаялі на сваім. Праграму яны рыхтавалі за месяц, прычым імкнуліся абапірацца на тых асобаў (у тым ліку школьнікаў і студэнтаў), якія альбо ўжо наведвалі Амерыку, атрымаўшы гранты, або працуюць у Гродне ў рамках супольных адукацыйных і іншых праграмаў. У аблвыканкаме імкнуліся да ўсяго яшчэ навязаць амерыканскаму госцю свайго суправаджаючага.

Улады таксама паспрабавалі абмежаваць доступ журналістаў незалежных газетаў на сустрэчу з паслом ва універсітэце. Мяне, напрыклад, ледзьве не пад рукі вывелі з залы дзябёлыя маладзіцы. Кіраваў акцыяй кіраўнік сектара замежных сувязяў Гродзенскага універсітэта Ю.Вайтукевіч. Ён безапеляцыйна папярэдзіў, што на сустрэчы з пасвам маюць права прысутнічаць толькі тры карэспандэнты: газеты «Гродзенская праўда», абласнога тэлебачання і рэспубліканскіх тэленавінаў АТН. Маўляў, так вырашылі «арганізатары», каб журналісты не задавалі пытанняў, бо гэта не прэс-канферэнцыя, а мерапрыемства толькі для універсітэцкай публікі.

Дарэчы, на сустрэчы прысутнічала толькі сто студэнтаў, якія задалі ўсяго тры нейтральныя пытанні, адно пытанне паслеў задаць нехта з выкладчыкаў. Супрацоўнікі пасольства аднак паведамілі мне, што імі прадугледжваўся і час, каб пытанні маглі задаць журналісты. Іх, між іншым, усё ж прапусцілі ў залу пасля таго, як я звярнуўся да намесніка старшыні аблвыканкама Марыі Бірюковай, якая пагадзілася, што гэта «непарадак». Аднак прабачэння ў мяне не папрасілі.

Хто канкрэтна даў абсурдную каманду наконт журналістаў, мне высветліць не ўдалося. Ясна толькі, што ўлады былі напалоханыя ранейшай масавай сустрэчай з беларускімі пісьменнікамі, на якой гучалі «вольналюбівыя матывы». Яна адбылася ва універсітэцкіх сценах дзесяць дзён назад.

У сераду адбылася сустрэча Дэніэла Спекхарда з прадстаўнікамі няўрадавых арганізацыяў у каардынацыйным камітэце «Гродзенская ініцыятыва». Цікава, што перад пачаткам нечакана з'явіліся намеснік старшыні гарвыканкама Я.Жабрун і начальнік упраўлення грамадскапалітычнай інфармацыі аблвыканкама У.Амелька, якіх не запрашалі. Але прадстаўнікі арганізацый вырашылі дазволіць ім прысутнічаць на сустрэчы. Маўляў, нам няма чаго хаваць ад улады... На абед, які спадар пасол даў у той жа дзень для журналістаў незалежных газетаў, ніхто з чыноўнікаў ужо не з'явіўся.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

## Адміністрацыя зоны перасялілася ў Гомель

**Сваю першую нараду ў Гомелі правяла адміністрацыя зон адчужэння і адсялення, створаных пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС.**

Гэтая структура міністэрства па надзвычайных сітуацыях цяпер будзе знаходзіцца не ў Мінску, а ў Гомелі — бліжэй да забруджаных тэрыторыяў. У задачы адміністрацыі ўваходзіць вырашэнне праблемаў усіх 15 забруджаных раёнаў Гомельскай і Магілёўскай абласцей, у тым ліку і адселеных вёсак, якіх у рэгіёне 384.

Яшчэ адзін вельмі важны клопат — выведзеныя з севазвароту 320 тысяч гектараў забруджаных радыенуклідамі земляў. Бяда ў тым, што частка з іх рэгулярна выкарыстоўваецца калгасамі і саўгасамі пад пасевы.

Між тым, пераезд «чарнобыльскай» адміністрацыі ў Гомель неадназначна ўспрымаецца мясцовымі ўладамі. Адзін з чыноўнікаў аблвыканкама выказаў такую думку: перасяліўшы гэтыя службы, сталічныя ўлады могуць «забыцца» на чарнобыльскія праблемы, і рэальная дапамога пацярпелым зменшыцца.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

## Затрымалі старшыню прафсаюза прадпрымальнікаў

**Старшыня Лідскага аддзялення Незалежнага прафсаюза прадпрымальнікаў Валерый Слівкін быў схоплены ў сераду міліцыяй пасля стыхійнага мітынгу мясцовых камерсантаў.**

Лідскія прадпрымальнікі падтрымалі сваіх калегаў з іншых гарадоў краіны і далучыліся да бестэрміновай забастоўкі ў знак пратэсту супраць увядзення ўладамі новай сістэмы падаткаў, якая фактычна робіць многіх гандляроў банкрутамі.

Міліцыянты абвінавацілі Слівкіна ў арганізацыі несанкцыянаванага мітынгу, склалі на яго пратакол аб парушэнні парадку правядзення масавых мерапрыемстваў, пасля чаго адпусцілі да суда на свабоду.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Загінуў журналіст

**4 лютага на трасе Рэчыца–Гомель у аўтакатастрофе загінуў карэспандэнт Гомельскага тэлерадыёаб'яднання 38-гадовы Канстанцін Крамнёў.**

На месцы здарэння цэлы дзень працавала міліцыя, аднак афіцыйнай версіі трагедыі пакуль няма. Паводле звестак, журналіст ехаў у Гомель з гатовым матэрыялам на рэдакцыйнай «Волзе». Прычынай аўтакатастрофы, відаць, стаў няўдалы абгон, паколькі ў выніку адбылося сутыкненне адразу некалькіх аўтамабіляў, якія рухаліся ў сустрэчных напрамках. Машына журналіста вылецела ў кювет і перавярнулася, К.Крамнёў памёр на месцы.

*БелаПАН*

*Гродна*

## Забіты старшыня абшчыны мусульманаў

**У Гродне быў застрэлены старшыня мясцовай мусульманскай абшчыны 33-гадовы Юсуф Крыніцкі.**

У аўторак раніцай забойца, з якім яны, відавочна, былі знаёмыя, прыйшоў да яго на кватэру. Як там развіваліся падзеі — невядома, але вынік жахлівы: забойца застрэліў жонку Крыніцкага, якой было 25 гадоў, а малому сыну тройчы ўдарыў пісталетам па галаве (яму ўсяго 1 год і 3 месяцы).

Забойца параніў і самога Крыніцкага, які выбег з кватэры і стаў уцякаць. На вуліцы ён быў яшчэ раз паранены. Хаваючыся ад стрэлаў, ён забег у прадуктовы магазін «Верасень», дзе каля прылаўка атрымаў трэцюю кулю, гэтым разам у галаву. Забойца знік. Здарэнне адбылося ў 9:30 раніцы. Праз некалькі гадзінаў цяжкапаранены Крыніцкі памёр у бальніцы.

Трэба зазначыць, што пяціпавярховы дом, дзе жыла сям'я старшыні мусульманскай абшчыны, знаходзіцца прыблізна за 100 метраў ад абласнога ўпраўлення унутраных спраў. Каб ён пабег у бок міліцэйскага будынка, дык можа ўратаваўся б.

Марай Крыніцкага было пабудаваць у Гродне мячэць, зямельны пляц для якой гарадскія ўлады дзякуючы ягоным намаганням выдзелілі ў мікраёне Румлёва.

**Віктар ВАСЬКО**

# Хто хоць раз адчуў свабоду...

Добры дзень, паважаная рэдакцыя! Я размаўляю па-руску, але Вам мне хочацца напісаць пару радкоў па-беларуску. Газету СВАБОДА чытала каля двух гадоў. Дзякуючы ёй я зразумела, якая прыгожая беларуская мова, асабліва калі на ёй выказваюцца розныя думкі і меркаванні.

Вельмі рада, што СВАБОДА зноў выходзіць (хоць і пад іншай назвай). Ваша газета нясе аптымізм у нашы душы! Калі б не было такіх газет, можна было б з'ехаць зглузду і дэградаваць як асоба, слухаючы наша БТ іназіраючы тое, што адбываецца навокал. Здаецца, усё перавярнулася з ног на галаву, людзей акутаў страх. Але гэта не можа быць доўга, таму што кожны, хто хоць адзін раз пазнаў пачуццё свабоды, ужо ніколі не захоча жыць у няволі.

Прабачце за спантаннасць. Першы раз пішу ў газету. Мне 30 гадоў, працую ў камерцыйнай структуры вядучым спецыялістам.

Хачу пажадаць рэдакцыі мужнасці, цярпення, веры ў свабоду, якая прыйдзе і на нашу Радзіму. Вашы верныя чытачы з Вамі!

**Алёна,**
*г.Мінск*

*Хартыя-97*

# Желаем мужества

Уважаемые предприниматели!

Белорусская гражданская инициатива Хартия-97 внимательно следит за перипетиями вашей борьбы с государственным рэкетом. Вы нашли в себе силы публично выразить протест и отстаивать право на достойную жизнь для себя и своих семей.

С самого начала своей деятельности частному предпринимателю приходится сталкиваться с таможенными поборами, непомерными налогами и бандитским рэкетом. Однако, несмотря на эти трудности, частные предприниматели создали в стране несколько сотен тысяч рабочих мест, а их вклад в белорусский бюджет исчисляется не одним десятком миллиардов рублей. Благодаря «челнокам» регулярно пополняется рынок продуктовых и промышленных товаров, белорусы получили возможность приобретать качественные товары по доступным ценам.

Хартия-97, поддержку которой выразили уже более 55 тысяч граждан Беларуси, заявляет о своей солидарности с вами и желает вам дальнейшего мужества в борьбе за свои права.

*От имени Хартии-97:*
**Виктор ИВАШКЕВИЧ, Андрей САННИКОВ, Дмитрий БОНДАРЕНКО**

# Надо помочь преодолеть страх

Здравствуйте, дорогая редакция. В первом номере газеты НАВІНЫ прочитал, что за Хартию-97 уже подписалось 44.775 человек. Эта цифра была бы намного больше, если бы народ не боялся преследований со стороны властей и прочего начальства. Многие подписали бы, но опасаются, что придется отвечать перед режимом. Я разговаривал с друзьями, знакомыми насчет Хартии, но они отвечают, что подписались бы, однако боятся, что из-за этого могут возникнуть проблемы не только у них, но и у детей, которым, дескать, надо поступать в ВУЗ и т.д. Надо помочь людям преодолеть страх.

**Иван МИНЬКЕВИЧ,**
*рабочий Минского подшипникового завода*

# Невукам паўсюль у нас дарога

У гэтым годзе я збіраюся паступаць ва універсітэт, але баюся, што могуць узнікнуць цяжкасці, бо, як мне стала вядома ад сакратара адной са школьных суполак БПСМ, пры паступленні перавага будзе аддавацца сябрам гэтай «патрыятычнай» арганізацыі. Я таксама патрыёт, але праблема ў тым, што мая Бацькаўшчына — Беларусь, а іхняя — «Союз России и Белоруссии от Бреста до Курил». Крыўдна, што свядомыя беларусы і, наогул, людзі з незалежным мысленнем становяцца ізгоямі, а невукі, нягоднікі і рознага кшталту калабаранты ўзвышаюцца над усімі, атрымліваюць уладу і прывілеі — толькі за тое, што яны любяць «бацьку», а мы — Бацькаўшчыну. Краінай жа павінны кіраваць не «чэсныя» кухаркі і дырэктары саўгасаў, а сумленныя прафесіяналы, якія хочуць бачыць Беларусь квітнеючай еўрапейскай краінай, а не запаведнікам рынкавага сацыялізму.

**Віктар МУХІН,** *г.Мінск*

# Нужны идеалисты

Я отношусь к тем, кого в приличных государствах называют высококвалифицированными рабочими. Родился и вырос в деревне. Более 30 лет отработал на крупном предприятии. Так что знаком с ситуацией на селе и в городе. Не знаю, что говорит статистика, но, на мой взгляд, порядка 60—70% нашего населения находится в категории от «алкаша» до сильно пьющего. В последнее время стали очень сильно пить женщины. Еще 15—20 лет строительства социализма или рыночного социализма и мы исчезнем как нация. Эта категория населения или абсолютно политически пассивна, или ее реакция непредсказуема. Что касается городских пенсионеров с образованием 3—7 классов (а таких большинство), то они «ловятся» не то что на муху, а просто на голый крючок: верну, отберу, поделю, посажу, укушу — этого им достаточно. О сельских пенсионерах и говорить не хочется. Они прожили жизнь в категории рабов, там же находятся и поныне. Полнейшая зависимость от всех и вся и бесправие. Необходимо учитывать и эффект «кухарки, управляющей государством», когда человек «на все имеет право, но ничего не может». Эта иллюзия своей значимости позволяет «кухарке» судить о вещах, в лучшем случае, имея о них весьма смутное представление. Примером может служить решение населением вопроса о государственной символике.

Считаю абсолютно не реальными надежды на массовые протесты рабочих столичных предприятий. Режим располагает достаточными финансовыми возможностями «бросить кость» в критический момент наиболее активным коллективам.

Авангардом всех реформ и революций всегда была интеллигенция — тонкая прослойка на теле народа. Но в нашем обществе это не прослойка, а нефтяная пленка на воде. У нас много учителей, врачей, агрономов, юристов, но они, как правило, не являются интеллигентами. Пример — наш президент.

Существует изречение, что революции совершают идеалисты-романтики, а их плодами пользуются мерзавцы. Я думаю, что в мерзавцах у нас недостатка не будет. Вся проблема в идеалистах.

**А.КАЛАНДА,**
*г.Минск*

# Независимая газета – лучший подарок

Мне кажется, что наши демпартии и движения абсолютно не борются за привлечение в свои ряды новых сторонников. Такое впечатление, что целью партий является некое желание отдельных групп людей лично «засветиться», показать себя и своих сподвижников. Иначе чем объяснить, что в кругу моих друзей и знакомых, с которыми я общаюсь и которые на дух не воспринимают существующий режим, нет ни одного человека, привлеченного какой-либо партией к своей деятельности. Откуда же возьмется Единение во имя великой цели, если каждый возмущается втихомолку, тайком, в узком кругу?

Единственный свежий глоток воздуха в стране — это независимые СМИ. Но вы наверняка знаете, что в сельской местности многие даже не знают, что есть такая пресса. В результате люди не имеют объективной информации о том, что происходит в стране. Обиднее всего, что даже среди сельских учителей, медицинских работников, ИТР колхозов и совхозов трудно найти людей, знающих правду. А правду можно узнать только из вашей и других негосударственных газет.

Считаю своим долгом еще раз обратиться ко всем, кто читает независимые СМИ. Давайте сделаем так: собираясь в гости к друзьям, соседям, сослуживцам, просто знакомым, сделаем им в качестве подарка подписку на несколько или хотя бы на одну независимую газету. Спустя время вы увидите, как меняются взгляды ваших близких. Лично я в этом убедился. Кроме того, у каждого из нас были и есть любимые учителя, врачи, просто знакомые, которые чем-то вам дороги. Найдите возможность подарить им подписку. Давайте поможем людям узнать правду.

**М.ВОЛЬНЫЙ,**
*г.Гродно*

# Дапаможам чалавеку!

Сябры Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі шчыра віншуюць кіраўніка Жодзінскай арганізацыі Грамады Алеся Каралёва з 50-годдзем.

Зычым перш-наперш здароўя. Даўно і сур'ёзна хворы на сэрца, ён жыве і працуе, змагаецца за беларушчыну, свабоду і дэмакратыю за дзесяць іншых здаравякоў. Не зважаючы на сваю бяду, заўжды адгукаецца на чужую. У сваім вельмі цяжкім стане ён ладзіць трохдзённы пікет у абарону Алеся Шыдлоўскага і Вадзіма Лабковіча, мужна трымае ўціск з боку КДБ.

Але не вытрымлівае сэрца. Алесю Каралёву тэрмінова патрэбная аперацыя. Яе кошт — 3 тысячы долараў. Большую частку гэтай сумы сябры па партыі ўжо сабралі.

Народная Грамада будзе ўдзячная кожнаму, хто адгукнецца на просьбу дапамагчы Алесю Каралёву. Кантактны тэлефон у Мінску — (017) 246-46-91.

**Мікола СТАТКЕВІЧ,**
*старшыня Народнай Грамады*

# Амаль як у вайну

Паважаная рэдакцыя! З вялікай надзеяй звяртаюцца да вас жыхары вёскі Траскоўшчына Мінскага раёна. Справа такая, што ўжо другі год мы церпім ад перабояў у падачы ў нашыя хаты электраэнергіі. З-за гэтага ў нашых дамах гараць і выходзяць са строю электрапрыборы, асабліва халадзільнікі і тэлевізары. А ў нас жа няма лішніх грошай на іх рамонт ці каб купляць новыя. Званілі мы ў «Энергаглгляд», але там сказалі звярнуцца ў мясцовыя «Энергасеткі». Пазванілі ў гэтыя «сеткі» — там сказалі звярнуцца ў «Энерганагляд». Так мы і не можам дабіцца нідзе толку і мусім на ноч адключаць халадзільнікі, каб не пагарэлі. Праўда, адзін раз прыязджала да нас жанчына з Мінска. Пахадзіла, паглядзела. Пасля гэтага нейкі час з энергіяй было ўсё добра, а потым ізноў пайшло па-старому.

Жывём мы і так не ў роскашы, капейку зарабляем працай, а не бокам-скокам. Некаторыя з нас жывуць у бараках, якіх некалькі на невялікую вёску. Чулі, што прэзідэнт абяцаў цікавіцца людскімі клопатамі. У нас жа, за 40 км ад сталіцы, робіцца такая бесталкоўшчына, што псуе нам і нервы, і адбірае час на рамонт, і галоўнае — грошы, якія дастаюцца нялёгкай працай.

Вельмі спадзяёмся, што наша пісьмо будзе надрукавана і дойдзе да тых чыноўнікаў, ад якіх залежыць вырашэнне нашай праблемы.

Мы хочам, каб у нашыя хаты электраэнергія паступала гэтак жа роўна і бесперабойна, як яна паступае ў кабінет прэзідэнта.

*Жыхары в.Траскоўшчына, у якой у гады вайны размяшчаўся штаб партызанскай брыгады імя Шчорса:*
**Жанна БАДЫЛЕВІЧ, Надзея БЕЛАЯ, Галіна ДЗЕМ'ЯНОВІЧ, Ганна ЮРКЕВІЧ, Галіна ШЧАСНАЯ, Л.Г. АНІСКАВЕЦ, Р.Г.АЎЧЫННІКАВА, А.В.ГУДЗЬ, А.Г.ШАЕХАВА, М.А.ЧУВАСАЎ, Е.І.СЕМЯНЕНКА, А.П.БОГУК, С.В.НАЛЕЦКАЯ, А.А.ПЯТКОЎСКІ, Л.І.ДАШКЕВІЧ, В.І.СУХАДАЛЬСКАЯ**





# Я выракаюся гэтай дзяржавы

Шаноўная рэдакцыя!

5 снежня мінула роўна 5 гадоў, як у Брэсце, падчас службы ў войску ў часці 12111, загінуў мой сын Уладзімір. Афіцыйная версія — скончыў жыццё самагубствам. Ён нібыта павесіўся на дрэве за межамі вайсковай часці.

Але матэрыялы следства не пераканалі мяне ў тым, што ён пайшоў з жыцця сам. З ягоных лістоў я ведаю, што за тыдзень да смерці яго жорстка збілі. Пасля таго выпадку ён два дні праляжаў у медсанчасці. Калі звярнуўся да камандзіра ўзвода, то не знайшоў ніякай падтрымкі, а 4 снежня яго ізноў па-зверску збілі. На наступны дзень яго не стала...

Следства ў хуткім часе спынілі, але мне пра гэта ніхто не паведаміў. Толькі праз год у Мінску я дамогся, каб мне паказалі матэрыялы справы. І я даведаўся пра дзікія рэчы. Мой сын з цяжкімі пабоямі ляжаў у медсанчасці, а дыягназ паставілі — вострае рэспіраторнае захворванне. Сцвярджаецца, што яго знайшлі павешаным, — але медыкі ліквідавалі след ад павешання, і праз усю шыю быў грубы хірургічны шрам. Чаму мяне не пусцілі ў морг, чаму не паказалі цела сына? Чаму ў справе няма ніводнага фотаздымка?

Ніхто не даў і не дасць сёння адказу на гэтыя пытанні. Я думаю, яны ўсе замяталі сляды. Я думаю, майго сына — відаць, ужо мёртвага пасля пабояў — павесілі на дрэве, а потым медыкі і следства папросту зрабілі ўсё, каб схаваць праўду.

Я быў на прыёме ў тагачаснага спікера парламента Мечыслава Грыба, іншых дзяржаўных асобаў, у рэспубліканскай пракуратуры, у адміністрацыі прэзідэнта. Ніводзін чыноўнік не прыслухаўся да мяне. Якая дзяржава — такія чыноўнікі. Дзяржава не напляваць на жыццё простага грамадзяніна.

Пасля ўсяго гэтага я не ўзяў 250 мінімальных зарплат дзяржаўнай кампенсацыі за смерць ваеннаслужачага. Я не ўзяў у дзяржавы яе чэкі «Жыллё» і «Маёмасць», не стаў прыватызаваць дзяржаўную кватэру. Летась праз камітэт салдацкіх маці мне цынічна прапанавалі дзяржаўную матэрыяльную дапамогу, ад якой я адмовіўся. У кастрычніку мне споўнілася 60 гадоў, і хоць мой працоўны стаж сорак гадоў — я не вазьму дзяржаўную пенсію з брудных рук такой дзяржавы.

Я выракаюся гэтай дзяржавы. Адкупіцца за загубленае чалавечае жыццё за бюджэтныя грошы не ўдасца.

**Андрэй ЧУПРЫНСКІ,**
*г. Мінск.*

*Социальная статистика*

# Между бедой и нищетой

В Беларуси проживает примерно 3,6 млн. семей. Из них министерство статистики ежегодно отбирает 5 тысяч — для обследования на предмет доходов и расходов. В эти семьи 17 раз в год приходят гости из числа работников областных и Минского городского управления статистики. Они-то и расспрашивают людей об их доходах и тратах.

Кроме того, семьи, которым выпала честь подвергнуться углубленному анализу, фиксируют реализацию своих жизненных нужд в «Журнал ежеквартальных расходов». Впрочем, государство интересуется ими недолго: по истечении календарного года для статистических опытов отбираются другие семьи.

Как считают статистики, такие методы обеспечивают объективность получаемой информации на всех уровнях. Им, очевидно, можно верить, поскольку аналогичные обследования давно и регулярно проводятся во всем мире. По этой же причине можно согласиться и с выводом, к которому приводит анализ отечественной статистики: белорусские семьи живут на грани бедности и нищеты.

## И два доллара на недвижимость

Именно такую сумму на строительство и приобретение недвижимости ежемесячно тратила средняя белорусская семья (данные за прошлый год).

Если судить по этой цифре, то строительный бум в Беларуси наступит не завтра. Равно как и всеобщее отрезвление, ибо эта же средняя семья на покупку спиртного тратила значительно больше.

Всего же алкогольные напитки ежемесячно покупают 1,63 млн. семей (45% от их общей численности). Остальные, надо полагать, отдают предпочтение напиткам домашнего изготовления или не пьют вовсе (что звучит как анекдот или издевательство). В среднем каждая «пьющая семья» тратила на эти цели 259,2 тыс. руб. в месяц, что в эквиваленте тех месяцев составляет около 10 долларов. Табачные расходы (порядка 8 долларов) имели 35% семей. Расходы на иные пороки типа наркотиков или азартных игр статистикой не фиксируются.

Народная капитализация нам, судя по всему, тоже не грозит: вклады в учреждения банков составили примерно 1,5 доллара на семью, а факты приобретения акций и других ценных бумаг за наличные деньги статистикой не выявлены — в этой графе абсолютный нуль.

Близко к нулю и количество приобретенных населением транспортных средств (сюда входит все, что движется, то есть и мотоцикл, и трактор) — всего 0,6% семей совершали такие покупки, потратив на них в среднем 12,4 млн. руб. Так что с автомобилизацией всей страны тоже придется подождать.

Всего лишь по два доллара в месяц нашлось в среднесемейном бюджете на обслуживание личного подсобного хозяйства. Это на 30 центов больше материальной помощи родственникам и другим нуждающимся лицам.



*Эти люди на свалке мусора под Минском — вовсе не бомжи. Это крестьяне из окрестных деревень, которые пришли сюда в поисках чего-нибудь полезного. Кусок кожи, резины, старая обувь — все же некоторый «доход» в нищий семейный бюджет деревенского жителя.*

## Это еще не пропасть, но...

Для определения имущественного расслоения общества статистики, в зависимости от доходов, делят население на пять равных по численности групп. Для каждой из них определяется средний уровень доходов на семью, и таким образом легко подсчитать, насколько одни богаче (беднее) других.

Например, средний показатель доходов в семьях низшей (первой) группы был в 6,3 раза меньше, чем в высшей (пятой). Однако денежные расходы в высшей группе в 7,5 раза превышали расходы в низшей. Трудно заподозрить самых бедных в скопидомстве и набивании чулков деньгами. Следовательно, богатые имеют «посторонние» доходы, что позволяет им тратить даже больше, чем они имеют.

И в то же время, группа беднейших семей располагала только 6,6% всех ресурсов домашних хозяйств, а богатейшие — 41,7%. Это, конечно, еще не Латинская Америка, но все же.

Легко определяются и различия между всеми остальными группами.

Исходя из формальной логики, пребывание в пятой группе вроде бы свидетельствует о богатстве, в первой — о бедности, а все остальные следует отнести к среднему классу. Но оказывается, что по уровню доходов две низшие группы и значительная часть средней живут ниже даже той черты бедности (прожиточный минимум в сентябре составлял 1,2 млн. руб.), которая установлена официально. Средний показатель четвертой группы (почти «богачи») — 1,96 млн. руб. — находился ниже официального минимального потребительского бюджета и свидетельствовал о вполне реальной бедности высших представителей среднего класса.

Таким образом, в нищете или бедности в современной Беларуси живет около 80% населения.

## Доход, да не тот

Конечно, есть у нас люди и богатые, и очень богатые, но они вряд ли принимают участие в статистических опытах Минстата. А если принимают — то вряд ли искренне. Если же говорить о массах, то среди них богачей, скорее всего, нет.

Интересно и другое. Почти 9/10 всех семей указали факт получения доходов от личных подсобных хозяйств. Причем даже в Минске, самом урбанизированном городе, этот источник дал почти 9% всех поступлений в семейный бюджет. В малых городах, естественно, больше — 17%. А в сельской местности «садово-огородные» доходы превысили 30%, и это даже выше, чем доля заработной платы в бюджете сельского жителя.

Так что народ трудится много — больше, чем зарабатывает.

Что касается географии, то больше всего «богатых» (более 4,5 млн. руб. на члена семьи в месяц) живет в Минске — 5,2%, бедных (менее 1,3 млн. руб.) в Могилевской и Брестской областях — 43% всего населения.

И последнее уточнение. Термин «семья» статистиками используется как эквивалентный понятию «домашнее хозяйство», хотя они совпадают не полностью. В данном контексте семья — это группа лиц, для которых общими являются бюджет и место проживания, а «зарегистрированные» родственные связи не являются обязательными. Тем более, что таких семей становится все больше: в прошлом году каждый шестой ребенок родился вне брака. А где дитя — там уж точно семья.

**Константин СКУРАТОВИЧ**

*ДАГЕРРОТИП*

# Ельцин, воспитатель Лукашенко

**Семен БУКЧИН**

Редактор Паша обиделся за своего работодателя. Ну в самом деле, что же это позволяет себе старичок Ельцин? Одно дело — гугукаться, тетешкаться с малыми внуками. И совсем другое — иметь дело с президентом суверенного государства.

«Мы будем его воспитывать», — сказал Ельцин на встрече с российскими журналистами.

И вот редактор Паша выговаривает Ельцину: «От усталости позабыл, что несмышленый внучек Глебик — это одно, а коллега по должности, Президент суверенной страны, — совсем другое».

Обидно Паше за своего патрона, которого дедушка Ельцин спутал со своим внуком Глебиком.

Но штука в том, что Ельцин как раз ничего и не напутал. Лукашенко вполне может сойти за его внука. Такой же егозливый, непредсказуемый... А уж сказануть может такое... Не всякий Глебик сумеет.

Вот и хлопочет дедушка Ельцин, воспитывает. Судя по всему, усилия эти не пропадают даром. Оказывается, «президент суверенной страны» отнюдь не из трудновоспитуемых. Поддается хорошему педагогическому воздействию. Еще совсем недавно, услышав это самое «мы будем его...», рубанул бы в ответ, что, мол, еще поглядим, кто кого воспитает... Да и добавил бы насчет старика, которому уже хорошо за восемьдесят. А сейчас смолчал. Выходит,сказывается воспитание? Не напрасны кремлевские уроки?

Один мудрый человек любил говаривать, что ежели зайца постоянно бить по голове, его можно научить зажигать спички. Вот и наш учится... Да и как не учится у того, у кого и нефть, и газ, и деньги... Поневоле будешь кланяться и благодарить за уроки.

А дедушка Ельцин, между тем, знает, что делает. Он и журналистов своих поблагодарил за то, что они в последнее время стали «помягче» к белорусскому президенту. Так и надо, не раздражая, спокойненько... Глядишь, и приручим строптивца. Тем более, свои ведь люди.

Поэтому напрасно сердится редактор Паша. Уже все, о'кей, Пашунчик! Полный, так сказать, консенсус! Я понимаю, за хозяина можно и глотку перегрызть. Но в данном-то случае, что за смысл? Уже ведь обо всем договорено. И в газете Пашиной об этом хорошо сказано, материал вон как называется: *«Встреча руководителей московских масс-медиа с А.Г.Лукашенко: первый шаг — уже дорога».*

Уже есть дорога, Паша! Поэтому не кипятись! Ведь как замечательно сказано в твоей газете: *«Поэтому московские начальники от журналистики поняли, что надо выходить из положения и расширять рамки своих представлений о белорусских соседях. А для этого нужно самим приехать в Минск, познакомиться с А.Лукашенко, задать ему важные вопросы».*

Это когда-то в журналистике считалось профессиональным долгом самому все видеть и делать собственные выводы. Теперь журналистика другая: надо приехать к правителю государства, в загородной резиденции в неформальной обстановке «задать ему важные вопросы». Только тогда и расширишь «рамки своих представлений». Другого пути, оказывается, не существует. Точнее, все другие пути ведут в болото «искаженных» представлений. Вот и редактор «Новых Известий» Голембиовский, не без удовлетворения отмечает Паша, «в итоге понял, что личный контакт для журналиста важнее уймы рассказов, мифов и легенд». Раньше, когда был редактором просто «Известий», Игорь Несторович не понимал, печатал этого злобного критикана Старикевича, а теперь, *«пообщавшись с Александром Григорьевичем, получит, наконец, не искаженное, а реальное представление о своем собеседнике, фигуре масштабной, уже сегодня оказывающей большое влияние на ход событий в Союзе».*

Великое дело личный контакт! Желаешь иметь неискаженное представление об Ираке — поговори с Саддамом Хусейном. Он тебе всю правду-матку выложит. И о своих ракетах, и о бактериологическом оружии.

Такая теперь журналистика... Прилетела группа московских журналистских боссов, выпилазакусила на президентские, разумеется, денежки, о чем-то потрепалась-пошепталась с Самим и в тот же вечер отбыла домой на личном самолете господина Березовского. А ведь совсем недавно Пашина газета постоянно писала о продажности московских СМИ, всех этих Гусинских-Березовских вместе с Доренками и прочими...

Как теперь насчет продажности, Паша? Выходит, когда к твоему патрону на встречу специальным самолетом прилетают, в рот ему глядят, а потом отбывают, скрыв все от своих читателей и слушателей, это уже не продажность? Это, разумеется, уже по-другому называется... Личный контакт!

И стоило действительно порядочной журналистке Ирине Петровской в «Известиях» возмутиться этой безобразной сделкой за спинами читателей, как Пашина газета тут же встала в позу. Оказывается, совсем недавно столь яростно поносимые ею «магнаты от прессы» Гусинские, Березовские, Сагалаевы, Доренки и иже с ними уже на правильном пути, поскольку «первый шаг — уже дорога». А вот для Петровской «мир может сузиться до размеров голубого экрана». А прилетела бы известинская публицистка, как пишет Пашина газета, «с целью поиска правды» в Минск, да из аэропорта сразу в уютный домик за город — там бы уж ей такой мир, такие дивы дивные предстали, такая правда жизни открылась, что на всю жизнь хватило бы.

Поиск правды всегда был в журналистике делом непростым. Но есть и правда лакейская.

Когда «березовский» Доренко громил Чубайса — он выполнял заказ хозяина.

Когда Доренко громил нашего правителя — это был тоже заказ Березовского, еще не нашедшего общего языка с Лукашенко.

Когда в минувшую субботу Доренко немножко, чуть-чуть выговаривал Лукашенко, что можно было бы и поумнее выйти из истории с Шереметом, — это уже был Доренко, «побывавший, побеседовавший и узнавший настоящую правду». Стало быть, о чем-то договорились хозяева, белорусский правитель с правителем ОРТ и еще много чего другого.

Потому-то Доренко всего лишь пожурил белорусского правителя за прямолинейность.

У каждого своя служба. Свой ошейник. А которые с ошейниками, они всегда подружатся... Поэтому воистину правильно замечено: «первый шаг — уже дорога».

## Што ў імені

Назва ўсходненямецкага міністэрства дзяржаўнай бяспекі для беларускага вуха гучыць амаль як дзявочае імя — **Штазі**. Гэта было самае ненавіснае імя для адных немцаў, другія ім ганарыліся, трэція пагарджалі, але ўсе, у тым ліку члены палітбюро, — **баяліся**.

Хросным бацькам Штазі, як і іншых усходнееўрапейскіх сакрэтных службаў, быў Лаўрэнцій Берыя. Першыя дзесяцігоддзі Штазі працавала пад дыктоўку савецкіх дарадцаў. Пазней Штазі пачала дзейнічаць больш самастойна, а ў 80-я гады ёй нават аддавалі перавагу перад КГБ: Штазі была лепш арганізаваная, яна надзвычай эфектыўна кантралявала нямецкае грамадства і вельмі паспяхова працавала на Захадзе. Сотні расстраляных ля Берлінскай сцяны, падтрымка тэрарыстычных груповак і арганізацыя забойстваў у Нямеччыне і за мяжой, палітвязні, змарнаваныя чалавечыя лёсы, растаптаныя душы — гэты рахунак аднолькавы для ўсіх сакрэтных службаў таталітарных грамадстваў.

Кіраўніком, ідэолагам і арганізатарам рэпрэсіяў і дыктатуры ў сацыялістычных краінах Усходняй Еўропы былі камуністычныя партыі. Аднак сакрэтныя службы з'яўляліся не проста ***інструментам***, — іх нездарма называлі ***органамі***, г.зн. арганічнай, неад'емнай часткай цэлага. Немагчыма правесці падзел, дзе канчаецца юрыдычная і маральная адказнасць кампартыі і пачынаецца адказнасць тайнай паліцыі. Паняцце злачыннага загаду і злачыннай арганізацыі, выпрацаванае на Нюрнбергскім трыбунале, забяспечвае агульны юрыдычны фон праблемы. Штазі была ўвасабленнем сістэмы: яны разам усталёўваліся, мацнелі, пашыраліся — і разам сканалі. Нязменны кіраўнік Штазі ад 1971 года Эрых Мільке выступіў 13 лістапада 1989 года ў парламенце з апраўданнем сваёй місіі:

— Мы прадстаўляем інтарэсы рабочага чалавека. Гэта была галоўная задача, ускладзеная на нас парламентам, і мы яе заўсёды імкнуліся выконваць. Гэтага не заўсёды было лёгка дасягнуць, даводзілася працаваць у цяжкіх умовах. І ўсё ж, таварышы! Шаноўныя члены парламента! Мы падтрымлівалі надзвычай цесны кантакт з працоўнымі.

Замест апладысментаў грымнуў смех. Усе ведалі, пра які «цесны кантакт з працоўнымі» гаварыў Мільке. Гэта было праз чатыры дні пасля падзення Берлінскай сцяны — немцы смяяліся з чалавека, якога больш за ўсіх баяліся і ненавідзелі ва Усходняй Нямеччыне.

Улады ФРГ і розныя незалежныя арганізацыі падышлі да дзейнасці Штазі гэтаксама, як да нацысцкага мінулага: было вырашана раскрыць як мага болей інфармацыі, уцягнуць людзей у гэты працэс. (Гэта быў новы досвед. Пасля вайны было інакш: пра мінулае ў Нямеччыне не гаварылі, яго імкнуліся забыць, спрабавалі жыць, быццам яго не было. Многія немцы лічаць, што працэс дэнацыфікацыі даў вынікі толькі ў 70-я гады, калі аднавілася публічная дыскусія пра часы нацызму.)

У канцы 1991 года Бундэстаг прыняў «Акт аб дакументах міністэрства дзяржбяспекі». Была ўведзеная пасада Федэральнага камісара Архіваў дзяржаўнай службы бяспекі былой ГДР, якую ўзначаліў вядомы ў ГДР пастар Ёхім Гаўк. Штат камісіі склаў 3.200 чалавек — архівістаў, даследчыкаў, юрыстаў. *Аддзел архіваў* займаецца захаваннем і апрацоўкай дакументацыі. Праз *Інфармацыйны аддзел* ахвяры маюць доступ да сваіх справаў, сюды ж прыходзяць запыты судоў. У *Адукацыйна-даследчым аддзеле* вывучаюць структуру, метады, апаратыўную дзейнасць Штазі.

За апошнія восем гадоў пабачылі свет дзесяткі кніг, ад афіцыйных публікацыяў дакументаў, журналісцкіх расследаванняў і акадэмічных манаграфіяў да мемуараў усходніх немцаў (як ахвяраў, гэтак і супрацоўнікаў Штазі). Сёння агульная колькасць публікацыяў і кніжных выданняў на гэтую тэму вымяраецца тысячамі.

Тым не менш, у Нямеччыне лічаць, што апрацоўка дакументаў Штазі ўсё яшчэ ў пачатковай стадыі. За камуністычным часам у архівах Штазі, раскіданых па ўсёй Усходняй Нямеччыне, былі сабраныя не тысячы, а мільёны дакументаў.

Аляксандр ЛУКАШУК

# КГБ па-нямецку: Штазі

***...Светлы пакой, два сталы, на кожным — сотні шматкоў рванай паперы. Чалавек бярэ кавалачкі, сартуе іх паводле гатунку паперы, машынапісу, почырку, колеру. Пасля прыкладае кавалкі адзін да аднаго, шукае супадзення краёў, нарошчвае, часам пакідаючы дзіркі, пакуль з ашматкаў не вырастае найвышэйшае дасягненне цывілізацыі — аркуш з тэкстам.***

***Так у ваколіцах Нюрнберга паўсотні архівістаў ужо два гады рэстаўруюць сакрэтныя дакументы міністэрства дзяржбяспекі ГДР. Пасля падзення Берлінскай сцяны нямецкія чэкісты ліхаманкава рвалі ўсё на шматкі.***

***Калі ў студзені 1990 дэманстранты ўварваліся ў берлінскую Лубянку, яны знайшлі 17 тысячаў акуратна запакаваных мяхоў іірванай паперы. Гэта каля ста мільёнаў старонак даносаў, рапартаў, фотаздымкаў, відэа- і аўдыёзапісаў.***



*Уніформа Штазі — фуражка з кукардай і шалік з вышыўкай.*

## Сродкі пабудовы сацыялізму

...Тут, у Нюрнбергскім архіве, асабліва востра адчуваеш, што папера — прадукт культуры, які не так проста знішчыць. Дакументы палілі, кідалі ў паперадрабілкі — але магутнасцяў не хапала, і стала ясна, што ўсе тэксты не спаліць, не ператрушчыць, не развеяць па ветры: час Штазі імкліва сыходзіў. І тады прыйшоў загад — ірваць.

Попел, як і старонкі, якія прайшлі праз паперадрабілкі, нельга аднавіць. Аднак чалавечыя рукі, нават калі гэта рукі гэбістаў, не надта дасканалыя ў справе знішчэння слядоў — парванае можна склеіць. Такіх рукатворных абрыўкаў набралася 5.650 мяхоў. У адзін мех набівалі каля 6.000 старонак дакументаў.

Памеры Штазі даюць пэўнае ўяўленне пра маштаб задачаў, што стаяць перад сённяшнімі гісторыкамі і архівістамі. У апошні год існавання (1989) ГДР выдаткавала Штазі 3,6 мільярда марак, або 1,3% нацыянальнага бюджэту. У гэтым жа годзе Штазі праводзіла інвентарызацыю. Паводле яе, Штазі мела: *18.000 кватэраў, 1.262 офісы, 1.181 сакрэтную навучальную базу і схованку, 14 гатэляў, 305 дамоў адпачынку, 99 спартовых комплексаў, 67 мясцовых камандных пунктаў і пунктаў сувязі, уласны шпіталь і рэабілітацыйны цэнтр ва Усходнім Берліне.*

Штазі належала *12.093 аўтамабілі, 5.450 грузавікоў і аўтобусаў, 124.504 рэвальверы і пісталеты, 76.592 аўтаматы, 3.611 снайперскіх вінтовак, 1.215 кулямётаў, 3.537 адзінак супрацьтанкавых узбраенняў.*

У гэтым спісе няма самалётаў, верталётаў, падводных лодак і баявых караблёў, але Штазі, безумоўна, ***мела доступ і магла карыстацца ўсімі наяўнымі ў краіне сродкамі барацьбы за сацыялізм.***

Прыведзены пералік — толькі жалеза, як на камп'ютэрным жаргоне называюць механічную частку камп'ютэра. Прыводзяць у дзеянне, запускаюць, ажыўляюць усе органы таталітарнага цмока людзі — іх называюць «кадры».

## Піраміда стукачоў

...Я хадзіў па калідорах архіва, гутарыў з супрацоўнікамі, разглядаў шматкі з тэкстамі і нават нотамі, паспрабаваў падняць адзін мех: ён важыў каля пуда. Мне патлумачылі: вага залежыць ад таго, як старанна парваная папера, — чым драбней, тым цяжэй. Ёсць старонкі, парваныя проста напалам, ёсць — на дзесяткі шматкоў. Рэкорд — аркуш, склеены з 98 абрыўкаў.

Я спытаўся, што было на тым аркушы, чаму яго ірвалі так старанна, метадычна, карпатліва, чаму так не хацелі, каб яго пабачыла чужое вока, што хавалі і чаго баяліся больш за ўсё? Гэта быў спіс, сказалі мне. Два з паловай дзесяткі прозвішчаў.

— Якіх прозвішчаў? — спытаўся я.

— «НСаў», — быў адказ.

Паводле дакументаў, у Штазі налічвалася каля 91 тысячы штатных супрацоўнікаў. Яны працавалі ў цэнтральным апараце ў Берліне, у пятнаццаці рэгіянальных цэнтрах і ў некалькіх сотнях мясцовых кантораў Штазі. Гэта кадравыя афіцэры і унтэрафіцэры, службоўцы, для якіх Штазі была афіцыйным месцам працы.

Іх вачыма, рукамі, вушамі былі **«неафіцыйныя супрацоўнікі» (НС)** — так называлі агентаў у ГДР. Паводле адных крыніцаў, 109 тысячаў немцаў шпіёнілі за суграмадзянамі на час падзення Берлінскай сцяны, іншыя прыводзяць лічбу ў 180 тысячаў — 1% насельніцтва. (У друку сустракаецца і лічба 300 тысячаў.)

НСы перадавалі свае данясенні прыкладна 12 тысячам штатных супрацоўнікаў. На аднаго афіцэра прыпадала каля 12 НСаў на раённым узроўні і 3—5 на больш высокім узроўні.

Апроч НСаў, існавалі так званыя **«агульныя супрацоўнікі», АСы**, якія давалі толькі падпіску аб неразгалошанні. Інструкцыі Штазі вызначалі розніцу паміж гэтымі дзвюма катэгорыямі агентаў наступным чынам: «АСы звычайна дзейнічаюць з меншай сакрэтнасцю, чым НСы». Паколькі кантакты з АСамі звычайна не дакументаваліся, *дакладнай інфармацыі пра тое, колькі нямецкіх грамадзянаў мела сувязь са Штазі ў такой форме, не існуе.*

Пасля вярбоўкі НС мусіў падпісаць афіцыйную заяву, у якой браў абавязак заўсёды падтрымліваць Штазі, нават у справах супраць сваякоў і блізкіх сяброў.

Прыкладна палова НСаў працавала пад кіраўніцтвам цэнтральнага апарата, а другая палова — на мясцовыя філіі Штазі. Насуперак распаўсюджанаму меркаванню, НСаў выбірала сама Штазі, ***добраахвотнікаў амаль не прымалі***. Штазі перш за ўсё цікавілі асобы, найбольш карысныя з яе пункту гледжання, зусім не абавязкова найбольш палітычна лаяльныя. Каштоўнага кандыдата часам гадавалі на працягу некалькіх гадоў. У падручніках Штазі згадваюцца тры асноўныя вярбовачныя тэхналогіі: *апеляцыя да палітычных і ідэалагічных перакананняў; прапанова фінансавых альбо іншых выгадаў; у якасці апошняга сродку — шантаж.*

Для параўнання: у 1989 годзе, пасля краху ўлады КПСС у Літве, у Вільні апублікавалі некаторыя сакрэтныя дакументы КГБ — у іх ліку інструкцыі, фармуляры, анкеты. Стандартная анкета агента-асведамляльніка складалася з 29 параграфаў. Апроч біяграфічных звестак, афіцэр-вярбоўшчык, які запаўняў анкету, мусіў напісаць адказы на шэраг пытанняў, у тым ліку падрабязна выкласці мэту вярбоўкі. Аднак паколькі справа была пастаўленая на паток, дык для зручнасці ў падрадкоўніку дробным шрыфтам прыводзіліся тыповыя адказы. Параграф нумар 23 «*Завербаваны*» прадугледжваў наступныя варыянты працягу: «*на патрыятычнай глебе, з выкарыстаннем кампраматэрыялаў, з варожага асяродку*».

Пытанне нумар 24 «*Супрацоўнічаць пагадзіўся*», паводле досведу КГБ, мела такія верагодныя адказы: «*ахвотна, хістаўся, пасля доўгага перакананння, паставіў умовы і г.д.*» У наступнай графе адзначаліся «*каштоўныя асабістыя якасці*» агента: «*памяць, назіральнасць, аналітычныя здольнасці, здольнасць уваходзіць у давер, фізічная сіла, валявыя якасці, здольнасць да пераўвасаблення і г.д.*» Далей у анкеце ішло пытанне «*Якія мае спецыфічныя магчымасці*». Падрадкоўнік прыводзіў некаторыя з іх: «*выезды ў іншыя раёны, наведанне прыватных кватэраў паводле характару працы, мае лецішча, уласную аўтамашыну, умее вадзіць аўтатранспарт і інш.*» Пытанне нумар 27 фіксавала «*асабістыя інтарэсы, зацікаўленні і схільнасці*», сярод іх «*спорт, паляванне, музыка, мастацтва, збіранне калекцыяў, турызм, радыёаматар, кінафотааматар, аматар гульні ў карты і іншых азартных забаваў*».

Перадапошняе пытанне ацэньвала «*надзейнасць агента*». Трэба было адзначаць, ці агент «*правераны праз агентуру, з выкарыстаннем аператыўна-тэхнічных сродкаў і інш. вынікі праверкі*». Завяршала анкету фактычна яшчэ адна анкета «*Звесткі пра асабістыя сувязі, якія маюць аператыўную цікавасць*». Сюды заносіліся імёны, адрасы, прафесіі знаёмых новаспечанага агента і звесткі пра іх, якія «*заслугоўваюць аператыўнай увагі*».

## 180 км чытання

...У архіўных пакоях, дзе ідзе працэс аднаўлення мінулага Штазі, усё знешне вельмі проста і звычайна. Стаяць кававаркі і кубачкі для гарбаты, на сценах вісяць фатаграфіі членаў сям'і ці папулярных акцёраў. На паліцах — пакункі спецыяльнай празрыстай стужкі для склейкі. У адной катушцы — 50 метраў паласы шырынёй два сантыметры.

— Што гэта ў вас за графікі, — звярнуў я ўвагу на разгалінаваны каляндар студзеня з нейкімі лічбамі насупраць датаў.

— Паказчыкі, колькі аркушаў удалося аднавіць за дзень, — патлумачылі мне. Лічбы сведчылі пра прадукцыйнасць працы: 3, 9, 8, 0, 0, 8, 6...

— Бывалі тыдні, калі не маглі скласці ніводнага аркуша. Бывала, складалі некалькі дзесяткаў за дзень. Як пашанцуе з мехам...

У сярэднім аднаму архівісту патрабуецца на аднаўленне аднаго меха каля трох месяцаў.

Інфармацыю звычайна вымяраюць байтамі, колькасцю словаў, радкоў, старонак, кніг. Нямецкі досвед даў новую адзінку: кіламетра-мяхі. У цэнтральнай архіўнай управе Штазі ў Берліне тэчкі са справамі запоўнілі *паліцы агульнай даўжынёй 100 кіламетраў*. У пятнаццаці акруговых архівах паліцы цягнуліся *яшчэ на 78 кіламетраў*. Гэта дарога ад Мінска да Вільні.

Паводле ацэнак, гэтая калекцыя налічвае больш за паўтара мільярда старонак. Апроч таго, у Берліне ў камп'ютэрызаваным архіве захоўвалася 6 мільёнаў індывідуальных біяграфічных даведак на ўсходніх немцаў і замежнікаў.

Сюды трэба дадаць і тыя *17.000 мяхоў рэзанай ды іірванай паперы*, якія знайшлі дэманстранты, калі 15 студзеня 1990 года ўварваліся ў будынак Штазі ва Усходнім Берліне. Гэта каля ста мільёнаў старонак даносаў, рапартаў, фотаздымкаў, відэа- і аўдыёзапісаў. Перад гэтым з комплексу будынкаў Штазі тыднямі разносіўся пах паленай паперы.

Прыкладна трэць знішчаных, але адноўленых дакументаў — ***матэрыялы сачэння за актывістамі-дэмакратамі і царкоўнымі дзеячамі ў 80-я гады***, але сустракаюцца і матэрыялы на ***перабежчыкаў***, якія загінулі падчас пераходу Берлінскай сцяны яшчэ на пачатку 60-х гадоў.

***Перлюстрацыяй пошты*** займаліся спецыяльныя службы мясцовых аддзяленняў сувязі. Архівы сведчаць, што, у залежнасці ад пільнасці мясцовых уладаў, у 80-я гады ў ГДР пераглядалася ад 1% да 5% усёй пошты.

***Тэлефоны праслухвала*** так званая Управа 26. Ва Управе 26 у 1989 годзе працавала 1.486 чалавек, якія маглі адначасова праслухоўваць 3.780 міжгародных тэлефонных размоваў і кантраляваць 50 ліній тэлексу. Поўныя магутнасці выкарыстоўваліся не часта, напрыклад, падчас правядзення Лейпцыгскага кірмашу; звычайна управа *праслухоўвала і запісвала ад 1.000 да 2.000 званкоў адначасова ў кожны момант.*

Прыкладна палова ўсіх заявак на праслухоўванне паступала ад 2-й Цэнтральнай Управы — усходненямецкай контрразведкі. 20% складалі размовы дысідэнтаў і супрацоўнікаў ключавых дзяржаўных установаў — гэта былі кліенты 20-й Цэнтральнай Управы. 18-я Цэнтральная Управа каардынавала барацьбу супраць эканамічнай злачыннасці; у яе інтарэсах кантралявалася каля 15% агульнай колькасці падслуханых перамоваў.

## Ручная праца

...У Нюрнбергскім архіве як агню баяцца скразнякоў. Лёгкі ветрык з адчыненай форткі можа звесці на нішто плён шматгадзіннай працы. Узлятуць і апусцяцца на стол і падлогу адсартаваныя пялёсткі паперы —

(Працяг на стар. 6)

# КГБ па-нямецку: Штазі

(Пачатак на стар. 5)

і пачынай усё спачатку. Адмысловая група камп'ютэршчыкаў у Франкфурце працавала над праграмай, якая дапамагла б аўтаматызаваць працэс пошуку і складання аркуша з абрыўкаў рознай формы. Камп'ютэрнае рашэнне было знойдзенае: сканер запамінаў форму абрыўка, нумараваў яго, спецыяльная праграма супастаўляла з абрысамі ўсіх іншых і давала каманду: вазьміце шматок нумар 53749 і прыкладзіце знізу да шматка 1092.

— Вы ўяўляеце плошчу, на якой трэба раскласці, да таго ж па парадку, усе абрыўкі? І колькі часу трэба, каб перад тым кожны з іх пранумараваць? І дзе ставіць нумар, калі тэкст з двух бакоў? — адказалі мне пытаннямі на маё пытанне — чаму праца не камп'ютэрызаваная.

Вяртанне гісторыі, як і рэстаўрацыя карцінаў старых майстроў, — ручная праца.

Паводле ацэнкі нямецкага гісторыка Клаўса Хэнке, які ўзначальваў Аддзел адукацыі і даследаванняў Федэральнай камісіі архіваў дзяржбяспекі, дакументы Штазі вартыя даверу як крыніцы інфармацыі. У Штазі існаваў уласны механізм спраўджання інфармацыі; дакументы Штазі значна менш ідэалагізаваныя, чым матэрыялы партыі. І хаця гэта не азначае, што ў дакументах Штазі ўтрымліваецца толькі праўда, без іх немагчыма зразумець гісторыю ГДР. І не толькі ГДР — у архівах Штазі зараз актыўна працуюць даследчыкі з іншых усходнееўрапейскіх краінаў, больш за ўсё з Польшчы, Чэхіі і Вугоршчыны.

## Адкрытыя дзверы

***Фінансава-матэрыяльны аспект*** праблемы — захаванне і апрацоўка архіва — аказаўся найлягчэйшым. Цяжэй было разабрацца з комплексам ***юрыдычных, палітычных і этычных праблемаў***. Спачатку думкі рэзка падзяліліся: шмат хто заклікаў знішчыць усе дакументы Штазі. Маўляў, дакументы, якія кампраметуюць былых «неафіцыйных супрацоўнікаў», будуць *пагрозай палітычнай стабільнасці* Усходняй Нямеччыны. Будзе надоўга падарваны давер да дзяржаўных і грамадскіх інстытутаў, напрыклад, да царквы. Апроч таго, у пэўных выпадках, нягледзячы на вялікую колькасць дакументаў, надзвычай цяжка даць маральныя ацэнкі.

Другі аргумент — *пагроза парушэння правоў асобы*, бо нельга было выключыць, што канфідэнцыйная інфармацыя трапіць у прэсу. Сярод архіўных дакументаў — даносы пра асабістае жыццё дысідэнтаў, алімпійскіх чэмпіёнаў, турыстаў, якія выязджалі на Захад. Сустракаюцца даносы мужоў на жонак, падлеткаў з царкоўных гурткоў на сваіх пастыраў, НСы інфармавалі Штазі пра сексуальныя адхіленні «аб'ектаў», прычым некаторыя з ахвяраў былі і партнёрамі НСаў у ложку.

Падобная інфармацыя ў прэсе, безумоўна, парушала б *канстытуцыйнае права асобы на прыватнае жыццё*. З гэтых меркаванняў увесну 1990 года вырашылі сцерці 6 мільёнаў біяграфічных даведак у камп'ютэры Штазі: пакінулі толькі адзін асобнік раздрукаванага тэксту.

Аднак у спрэчцы «захаваць—знішчыць» перамог погляд на ***архівы як на частку агульнай культурнай спадчыны***. Праз год пасля аб'яднання нямецкія палітыкі прынялі формулу, якая гарантавала правы асобных грамадзянаў і адначасна забяспечвала захаванасць архіваў Штазі для будучыні. Паводле закона ад 20 снежня 1991 года, наглядаць за дакументамі Штазі даручана Федэральнаму камісару архіваў дзяржаўнай службы бяспекі былой ГДР.

Архіўныя працэдуры досыць простыя. Пасля студзеня 1992 года любы чалавек, згаданы ў дакументах Штазі, у тым ліку іншаземец, мае права азнаёміцца з дакументамі, якія яго датычаць. Пасля атрымання пісьмовага звароту архіўныя службы ўдакладняюць, ці збірала Штазі інфармацыю на заяўляльніка. Калі так — чалавек можа пазнаёміцца з ксеракопіяй сакрэтнай тэчкі. Каб прадухіліць магчымыя канфлікты паміж ахвярамі і даносчыкамі, у ксеракопіі закрытыя імёны тых, хто пастаўляў інфармацыю Штазі. Аднак ахвяра мае права патрабаваць, каб гэтыя імёны адкрылі. Такім чынам, чалавек сам вырашае, як распарадзіцца сваім мінулым.



*Гэты будынак знаходзіцца ў цэнтры Лейпцыга. Ён — толькі частка вялікага комплексу, які займаў мясцовы аддзел Штазі. Увосень 1989 года яго штурмавалі шматтысячныя дэманстрацыі, людзі патрабавалі раскрыць таямніцы дзяржбяспекі. Цяпер тут месціцца выстава «Сапраўдны твар Штазі», яе наведалі мільёны немцаў.*

Штазі мела справы прыкладна на 5 мільёнаў чалавек. Пакуль пазнаёміліся са сваім жыццём у дакументах дзяржбяспекі 800 тысячаў немцаў (заяўкі падалі 1 млн. 200 тысячаў чалавек).

Паводле заканадаўства, пабочныя асобы могуць атрымаць доступ да архіва толькі ў двух выпадках. Першы — калі чалавек уладкоўваецца на працу, якая вымагае так званай праверкі бяспекі. У такім выпадку працадаўца мае права ведаць мінулае кандыдата.

Другая катэгорыя дакументаў, да якіх могуць атрымаць доступ пабочныя асобы, — справы асабліва вядомых людзей. Заканадаўцы вырашылі, што ў некаторых выпадках грамадскі інтарэс пераважае над асабістым правам захоўваць сваю біяграфію ў тайне. Дазвол у такім выпадку даецца вучоным-даследчыкам і журналістам, якія атрымліваюць «ананімную», без імёнаў інфарматараў, версію дакументаў.

## Урокі на заўтра

Посткамуністычная практыка сведчыць, што заканадаўчае адкрыццё архіваў — гэта неабходны першы этап пераадолення таталітарнага мінулага. ***Навуковае вывучэнне дакументаў, грамадскае асэнсаванне спадчыны рэжыму*** ў цэлым і судовае расследаванне ў кожным канкрэтным выпадку — ***абавязковыя элементы*** **цывілізаванага развіцця з таталітарызмам.**

Гэта найбольш паслядоўна выяўляе якраз нямецкі досвед. Рассакрэчанне архіваў у Нямеччыне грунтуецца на тым самым прынцыпе, які датычыць нацысцкага перыяду — **пераадоленне мінулага** (*Vergangenbeitsbewaeltigung*). Дзеля ўвасаблення гэтага прынцыпу дзяржава дае дастатковыя сродкі і на самі архівы, і на даследаванні, канферэнцыі, публікацыі на тэмы, звязаныя са Штазі.

Абавязацельствы не разглашаць сакрэты, якія падпісвалі грамадзяне ГДР, у ФРГ заканадаўча **страцілі юрыдычную сілу**. У выніку былыя як кадравыя, гэтак і неафіцыйныя супрацоўнікі Штазі могуць адкрыта расказваць і пісаць пра сваю былую дзейнасць (за выняткам рэдкіх выпадкаў, калі інфармацыя тычыцца інтарэсаў бяспекі Нямеччыны альбо закранае інтарэсы трэцяга боку).

*Несумненна выйгралі ад адкрыцця архіваў ахвяры*, якія здолелі дамагчыся рэабілітацыі і кампенсацыі. Што тычыцца асабістых зносінаў, дык выкрыццё даносчыкаў сярод калегаў, сяброў, нават сваякоў, — *несумненна нанесла новыя раны*. Але адначасна ў многіх выпадках гэта дапамагло вырашыць і шмат якія старыя непаразуменні і канфлікты. На падставе дакументаў, якія сведчылі, што той ці іншай асобе нанесеная шкода, пацярпела кар'ера і г.д., ахвяра *мае права падаць у суд* на інфарматараў і супрацоўнікаў Штазі.



*У 80-я гады, калі слова «камп'ютэр» яшчэ было экзатычным і малавядомым для шырокай публікі, Штазі мела шырокую камп'ютэрную сетку па ўсёй ГДР. Пасля падзення Берлінскай сцяны было вырашана сцерці 6 мільёнаў біяграфічных даведак у камп'ютэрах Штазі, каб не дапусціць злоўжывання прыватнай інфармацыяй.*

Многія краіны (напрыклад, Чэхія, Польшча), спрабуючы разабрацца са спадчынай таталітарызму, сутыкнуліся з праблемай вызначэння віны. Прынятыя законы насілі ў пэўнай ступені карны характар, зыходзілі з прэзумпцыі вінаватасці і калектыўнай адказнасці, што выклікала рэзкую крытыку. Апроч таго, адразу паўстала праблема надзейнасці архіваў.

У ліку абвінавачаных тады апынуліся і людзі, вядомыя сваёй барацьбой супраць рэжыму. Безумоўна, сакрэтныя службы мелі сваіх асведамляльнікаў і сярод дысідэнтаў. Аднак таксама добра вядома, што тайная паліцыя свядома распаўсюджвала чуткі аб супрацоўніцтве з ёю актывістаў, каб скампраметаваць іх, пасеяць разлад у асяродку дысідэнтаў. Як правіла, такія акцыі прыносілі поспех — ва ўмовах неправавых рэжымаў і атмасферы падазронасці ў грамадстве абараніць сваё імя было немагчыма.

Але і посткамуністычнае грамадства неахвотна слухала апраўданні, і ў шэрагу выпадкаў новыя балючыя раны былі нанесеныя тым, хто іх менш за ўсё заслугоўваў. Нават пазнейшыя судовыя апраўданні не маглі залячыць траўмаў, якія атрымаў невінаваты чалавек. Так таталітарызм працягваў рабіць свае ўдары і пасля таго, як урачыста абвясцілі пра яго пахаванне. Апроч несправядлівасці, такая практыка сеяла недавер да адкрыцця архіваў у цэлым і фактычна спрыяла былым сапраўдным супрацоўнікам сакрэтных службаў. Яны атрымлівалі аргументы ў сваю абарону, спасылаючыся на выпадкі, калі абвінавачанні аказваліся несапраўднымі. Яшчэ адно наступства паспешлівых выкрыццяў — апатыя, частковая страта цікавасці да архіўных дакументаў, якая назіраецца цяпер у большасці ўсходнееўрапейскіх краінаў.




*«Нас вучылі: няма і не павінна быць такога будынка, такога бункера, такой галавы і такой душы, куды не магла б зазірнуць Штазі», — узгадвае былы супрацоўнік нямецкай спецслужбы. І сапраўды: у Штазі налічвалася 91 тысяча штатных супрацоўнікаў, а лічба агентаў даходзіла да 300 тысячаў.*

...Знаёмства са справай прафесара тэалогіі Н. не пакідала месца сумневам: прафесар быў шматгадовай крыніцай інфармацыі Штазі. Камісія Ёхіма Гаўка прадставіла 22 дакументы, якія сведчылі пра гэтую сувязь. Дакументы не былі сфальсіфікаваныя, іх аўтэнтычнасць была цалкам даказаная. На іх падставе прафесара павінны былі пазбавіць права выкладаць ва універсітэце. На судзе абвінавачаны заявіў, што кантакты са Штазі ўваходзілі ў кола ягоных абавязкаў як дзеяча царкоўнай управы, аднак ніякім супрацоўнікам сакрэтнай службы ён не быў. Калі яго інфармацыя фіксавалася Штазі як аператыўная, дык сам ён пра гэта нічога не ведаў. Сведкі, у тым ліку былыя супрацоўнікі Штазі, патлумачылі, што часам давалі псеўданімы і афармлялі ў якасці НСаў некаторых асабліва важных для спецслужбы асобаў без іх ведання і згоды. Прычына — унутраная канкурэнцыя: адны аддзелы не хацелі, каб да іх крыніцаў падступаліся калегі з іншых управаў. Суд апраўдаў прафесара-тэолага.

У падобным выпадку з іншым прафесарам К. — на падставе архіўных дакументаў, а таксама сведчанняў калегаў і былых супрацоўнікаў Штазі — суд прызнаў абгрунтаванасць абвінавачанняў: прафесар-даносчык мусіў пакінуць універсітэт.

Досвед Нямеччыны мае велізарнае значэнне. Да абвінавачанняў у злачынствах камунізму тут паставіліся як да ўсіх іншых абвінавачанняў у злачынствах: прымаюцца пад увагу толькі дасканала правераныя падчас следства і пацверджаныя ў аб'ектыўным судовым разглядзе доказы.

Нягледзячы на агульную высокую верагоднасць інфармацыі ў дакументах Штазі, нямецкія юрысты прыйшлі да высновы, што яна недастаткова надзейная з пункту гледжання права. Паводле пастановы Вярхоўнага суда Нямеччыны, *дакументы міністэрства дзяржаўнай бяспекі прынцыпова не могуць лічыцца дастатковым доказам дзеянняў, якія інкрымінуюцца падазраванай асобе.*

У Нямеччыне не толькі не бяруць пад увагу газетныя інсінуацыі і прыватныя плёткі, але за іх можна трапіць на лаву падсудных. Суд пераправярае паводле іншых крыніцаў архіўныя дакументы; суддзяў цікавіць не само «неафіцыйнае супрацоўніцтва» (для больш-менш вядомых дзеячаў кантакты з уладамі і Штазі былі непазбежныя), а парушэнне законаў і нанесеная шкода.

## Страх і свабода

Нямецкі досвед у пэўным сэнсе ідэальны: велізарны эканамічны і інтэлектуальны патэнцыял, высокакваліфікаваная судовая сістэма дапамаглі вырашыць як практычныя, гэтак і шматлікія юрыдычныя і маральныя праблемы без значных палітычных і сацыяльных узрушэнняў. Нямеччына змагла дазволіць сабе поўную замену сакрэтных службаў ва ўсходніх землях. Ні адна іншая былая сацыялістычная краіна не ў стане цалкам паўтарыць нямецкі досвед. (Нават у Нямеччыне, у ідэальных палітычных, арганізацыйна-фінансавых умовах, не атрымаўся бліц-пераход — некалькі месяцаў пайшло на прыняцце парламенцкага рашэння аб замене Штазі федэральнымі службамі, але яшчэ паўтара года Федэральнае агенцтва абароны канстытуцыі і Федэральная разведвальная служба не мелі мясцовых аддзелаў ва Усходняй Нямеччыне.)

У той жа час прыклад Нямеччыны сведчыць, што дзяржава сама не здольная пераадолець традыцыі таталітарызму. **Гэта можна зрабіць толькі з удзелам шырокай грамадскасці.** Людзі павінны мець права доступу да свайго мінулага, каб самастойна прыняць рашэнне і зрабіць належныя высновы дзеля свабоды.

**Бо свабода немагчымая без праўды.** Гэтая аксіёма вызначыла лёс сакрэтных архіваў у еўрапейскіх краінах пасля падзення камунізму. Гэтая формула мае і адваротную сапраўднасць — зачыненыя архівы азначаюць, што камунізм працягвае існаваць. Таталітарызм заўсёды патрабуе міністэрства праўды.

...Цяпер, пасля вяртання з Нюрнберга, я ведаю, як выглядае жах катаў: гэта мяхі з ірванай паперай.

(«Наша Ніва»)

